


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 6 (10) ВЕРАСЕНЬ 2002 г.

## ВЕСТКІ

БРАСЛАЎШЧЫНА

У мінскім выдавецтве "Рыфтур" пабачыў свет турысцкі даведнік "Браслаў і наваколле". Яго аўтар – сябра Браслаўскага краязнаўчага таварыства Кастусь Шыдлоўскі. Выданне багата ілюстравана фотаздымкамі Сяргея Плыткевіча.



Вельмі плённымі былі раскопкі на гарадзішчы Рацюнкі, якія праводзіла экспедыцыя Белдзяржуніверсітэта пад кіраўніцтвам Аляксандра Егарэйчанкі. Сярод знаходак было шмат рэдкіх: костка з рунічным знакам, арабская манета дзірхам, падвеска-амулет у выглядзе грабеньчыка і інш.



31 ліпеня ў памяшканні Музея традыцыйнай культуры адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы "Грымотная слава дзядоў", на якой прадстаўлены карціны гістарычнай тэматыкі мастака з в.Барадзінічы Яна Рыдзікі. На палотнах знайшлі адлюстраванне гераічныя старонкі Браслаўшчыны і Беларусі. Большасць карцін створана мастаком адмыслова для гэтай выставы



**Ян Рыдзіка на адкрыцці выставы**



**«Вітаўт Вялікі»**



У ліпені ў Браславе адбылася сустрэча прадстаўнікоў мінірэсурсовых цэнтраў грамадскіх арганізацый Віцебскай вобласці. Падчас сустрэчы абмяркоўвалася стратэгія дзейнасці на бліжэйшую перспектыву. Былі падведзены вынікі працы за мінулы год.



Сябры краязнаўчага таварыства бралі ўдзел у правядзенні летніка для дзяцей, які праводзіўся ў Браславе напрыканцы жніўня адной з прыватных мінскіх фірм. Дзяўчынкі з Мінска і маскоўскіх беларускіх сем'яў не толькі адпачывалі на азёрах, але і знаёміліся з тэхналогіяй некаторых відаў традыцыйных рамёстваў, рабілі краязнаўчыя вандроўкі, наведвалі музеі горада.

Ад рэдакцыі

*Пасля летніх вакацыяў зноў пачне выходзіць краязнаўчы бюлетэнь "Павет". Будзем імкнуцца захоўваць штомесячную перыядычнасць і папранейшаму змяшчаць самы разнастайны матэрыял па гісторыі і культуры Браслаўскага рэгіёна. Спадзяемся на больш шчыльны кантакт з чытацкай аўдыторыяй. Пішыце нам, дасылайце лісты, матэрыялы, задавайце пытанні.*

*Першы нумар пасля вакацыяў цалкам будзе прысвечаны летнім месяцам. Лета – гэта пара вандровак, экспедыцый, летнікаў, сустрэч. Яго можна правесці весела, цікава, карысна. У сваіх матэрыялах аўтары распавядаюць аб яркіх эпізодах свайго летняга жыцця.*



**Добры дзень, восень!**

# ВЕСТКІ

У сувязі са спякотным сухім летам у Заходняй Дзвіне і яе прытоках усталяваўся надзвычай нізкі ўзровень вады. Каля старажытнага мястэчка Друя на паверхню выступіў Барысаў камень. Гэты валун з крыжам і надпісам XII ст. ляжаў на беразе ракі да канца 20-х гадоў XX ст., а потым ледаходам быў сцягнуты ў рэчку Друйку. Доўгі час даследчыкам не ўдавалася лакалізаваць дакладнае месца знаходжання каменя. Амаль няма сумненняў, што ўдалося знайсці менавіта Барысаў камень, хаця надпіс і крыж занесены пяском. Робяцца спробы расчысціць валун.





У пачатку жніўня некалькі прадстаўнікоў Браслаўскага краязнаўчага таварыства выязджалі на скандынаўскі летнік у Эстонію, дзе яны прадстаўлялі працу, якая вядзецца ў Браславе па аднаўленню старадаўніх рамёстваў.



Скаўцкія арганізацыі вёсак Пагошча і Опса 10-17 жніўня бралі ўдзел у летніку, арганізаваным ля Будслаўскай святыні. У праграме летніка былі турысцкія і культурныя мерапрыемствы, а таксама валанцёрская праца.



22 жніўня ў Браславе адбыўся фэст ушанавання абраза Маці Божай Браслаўскай – Валадаркі азёраў, які лічыцца галоўнай святыняй усёй Віцебскай каталіцкай дыяцэзіі. На свяце прысутнічалі некалькі тысяч вернікаў, звыш 100 святароў з Беларусі, Латвіі, Польшчы, Украіны, Расіі, сярод іх – 3 біскупы. Быў падрыхтаваны інфармацыйны стэнд па Браслаўскай парафіі, у якім скарыстаны матэрыялы, сабраныя і апублікаваныя мясцовым краязнаўчым таварыствам. У гэты дзень упершыню за дзесяцігоддзі над храмам загучалі званы. Для Браслаўскага касцёла іх адліў майстар Ян Фэльчынскі з Польшчы.





У жніўні Браслаўскае краязнаўчае таварыства правяло чацвёрты па ліку гуманітарны летнік для дзяцей "Укля 2002". Удзельнічала каля 50 чалавек не толькі з Браслаўшчыны, але і з Менску, Наваполацка, Даўгаўпілса (Латвія), Масквы (Расія). За час летніка была пабудавана стаянка старадаўняга чалавека, арганізавана навучэнне даўнім рамёствам. Усе ўдзельнікі карысталіся загадзя падрыхтаванымі гістарычнымі строямі. Напрыканцы летніка адбыўся канцэрт папулярнага гурта "Стары Ольса" пад кіраўніцтвам Зміцера Сасноўскага.



Апошнім часам пры Браслаўскім музеі паступова стала складвацца нефармальная арганізацыя аматараў рэканструкцыі тэхналогій даўніх рамёстваў і заняткаў чалавека, якія грунтуюцца на мясцовых археалагічных матэрыялах. Быў створаны дэманстрацыйны комплекс "Даўнія рамёствы", які быў паказаны на фестывалі "Браслаўскія зарніцы" і выклікаў цікавасць гасцей імпрэзы. Акрыленыя поспехам, вырашылі паспрабаваць свае сілы ў Навагрудку, дзе напрыканцы чэрвеня планаваўся другі міжнародны фэст сярэднявечнай культуры.

Сучасны Навагрудак – гэта горад Гарадзенскай вобласці, цэнтр раёна з насельніцтвам 30 тысяч чалавек. Горад славуты найперш прыгажосцю навакольных мясцін. Забудова раскінулася на высокіх пагорках. Тут шмат цікавых гістарычных помнікаў – руіны магутнага замка, цэрквы, касцёлы, дзейнічаюць два музеі: гістарычна-краязнаўчы і мемарыяльны музей Адама Міцкевіча. Навагрудак быў першай сталіцай Вялікага княства Літоўскага, пазней – ваяводскім цэнтрам. На гарадскім гербе змешчана постаць Чорнага Анёла з шалямі ў адной руцэ і мячом у другой.

Удзельнікамі фэста сярэднявечнай культуры былі рыцарскія клубы Беларусі і шэрагу еўрапейскіх краін, фальклорныя і музычныя калектывы, мастакі.

# У горадзе Чорнага Анёла

Наша запозненая заяўка сталася поўнай нечаканасцю для арганізатараў. Дазвол на прыезд прыйшоў у апошні момант, але мы лёгкія на пад'ём. Едзем на некалькіх напоўніцу нагружаных прыватных машынах, скінуўшыся на паліва і на харчы.

Наша калона са старэнькіх легкавікоў, да багажнікаў якіх былі прымацаваны рулоны дэкаратыўнага плота з трыснягу, выглядала надзвычай маляўніча. Калі адной з машын спатрэбілася тэхнічная дапамога, майстар СТА так і сказаў кіроўцу: "Заганяй свой шалаш." Пасля гэтага выраза нам стала зразумела: мы не дарэмна выехалі ў Навагрудак.



Два дні працы ў Навагрудку – гэта цэлы воз уражанняў. Свой комплекс мы разгарнулі на Малым замку. Знаёмцеся з удзельнікамі: разьбяр Саша Курбан, ганчар Валеры Зінкевіч, прадзенне Ірына Шыдлоўская, прыстасаванні для пісьма XI – XII стст. Кастусь Шыдлоўскі, спіральнае пляценне Зоя Кальцова, тканне на вертыкальных кроснах Антаніна Кавалык, розныя віды пляцення Тамара Ундруль, Таццяна Цімошкіна, выраб вожы на вогнішчы Эла Зінкевіч. Яшчэ нашы дзеці: Насця, Ганка, Янка, Надзейка, Алеська, Альгерд і памочнікі, без якіх не было б свята: Валодзя Скрабоўскі, Алена Селях, Света Курбан.

# ВЕСТКІ

На працягу тыдня з 28 жніўня на Браслаўшчыне працавала комплексная экспедыцыя чатырох універсітэтаў Беларусі, Літвы, Польшчы і Германіі па даследванню сучаснай моўнай сітуацыі рэгіёна. Вывучаліся асаблівасці гаворак беларускай, польскай, літоўскай, стараверскай этнічных груп Браслаўшчыны.



У суботу, 31 жніўня, 600-годдзе з часу першай згадкі ў пісьмовых крыніцах адзначыла вёска Дрысвяты, размешчаная на беразе аднайменнага возера. У дакуменце, які датуецца 1402 г., згаданы Дрысвяцкі замак. Гісторыя паселішча яшчэ больш старажытная. Археолагі ўстанавілі, што ў XI – XIII стст. Дрысвяты былі гарадскім паселішчам Полацкага княства. Дарэчы, тут знойдзены такія рэдкія прадметы, як пісала, шахматная фігурка, прадметы з надпісамі, крыжы-энкалпіёны.

Багатай гісторыі паселішча прысвечаны гістарычны зборнік "Браслаўскія сшыткі", які некалькі гадоў назад выпусціла Браслаўскае краязнаўчае таварыства.



1 верасня Браслаўскае музейнае аб'яднанне правяло Свята рамёстваў. Імпрэза адбывалася на пляцоўцы Музея традыцыйнай культуры. У праграме свята, якое, дарэчы, праводзілася ўпершыню, былі прэзентацыі народных майстроў, выступленне тэатра гульні з Браслава "Лёлі", конкурс кветкавых кампазіцый, развучванне народных гульняў і танцаў. Упрыгожаннем свята стала выступленне вядомага гурта з Мінска "Стары Ольса".



4 верасня ў цэнтры Браслава адчыніўся новы прыватны рынак. Першы тыдзень гандлёвыя месцы ў ім прадастаўляюцца прыватным гандлярам бясплатна. Стары дзяржаўны рынак зараз пустуе. Як далей будуць ужывацца два рынкі ў невялічкім Браславе, пакажа час.



Калектыў аматараў жывой археалогіі пры Браслаўскім музейным аб'яднанні быў удзельнікам фэсту сярэднявечнай культуры "Заслаўскі набат", які адбыўся 7-8 верасня ў Заслаўі.



11 верасня ў Музеі традыцыйнай культуры адкрылася выстава вядомага беларускага графіка, народнага мастака Беларусі, лаўрэата шматлікіх прэмій Георгія Паплаўскага "Браслаўскі дзённік". Мастак даўно ўжо падоўгу працуе на Браслаўшчыне, падтрымлівае цесныя сувязі з музеем. Новы цыкл Г.Паплаўскага вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі. На адкрыцці выставы прысутнічаў сам мастак.





Перад гледачамі ўся наша маленькая калонія займалася справамі, прапаноўвала старадаўнія стравы, ды і сама сілкавалася, таньчыла, увогуле жыла паўнацэнным жыццём фэста.

Людзей жа было шмат. Два дні – бясконцая чародка цікаўных. Мы ўжо збіраліся ў Браслаў, а гледачы ўсё падыходзілі і падыходзілі.

Радуе, што некаторыя гледачы правільна вызначылі ідэю нашага паказа – адлюстраванне момантаў жыцця і заняткаў даўніх людзей. Пачулі шмат слоў удзячнасці, але найбольш спадабалася, калі нехта параўнаў нас з нейкай дзіўнай абшчынай абшчынай – мы імкнуліся да гэтага.

Добраму, узнёсламу настрою не перашкодзілі ні дрэннае часам надвор'е, ні стомленасць, ні абыякавыя адносіны арганізатараў фэста. Што да самога свята, то мы яго амаль не бачылі: адарвацца ад дэманстрацыі маглі толькі на кароткі тэрмін.

Па завяршэнні праграмы ціхенька згарнулі свае "шалашы" і рушылі ў бок Браслава. Было і радасна і сумна. У некалькіх месцах нашы лёгка пазнавальныя аўта-шалашы сустрэлі воплескамі.

Не, не дарэмна мы прыязджалі ў Навагрудак. Да новых сустрэч, горад Чорнага Анёла!

**Зацікаўлены Удзельнік**

P.S. Ужо пазней мы даведаліся, што пры анкетаванні ўдзельнікаў фэста, наш комплекс быў прызнаны адной з яркіх адменасцей. А то!

*Экспедыцыі, пошукі, цікавыя знаходкі*

# Паляўнічыя за таямніцамі

25 гадоў "Арганаўты мінулага" несупынна вядуць пошук старажытнасцей на Мёршчыне. Многія знаёмыя са здзіўленнем пытаюць: "Ці можна яшчэ што-небудзь адкрыць пасля шматгадовай дзейнасці "Арганаўтаў"? Апошняя краязнаўчая вандроўка ў каторы раз пацвердзіла — новых адкрыццяў хопіць не толькі нам, але і наступным пакаленням неўтаймаваных шукальнікаў. Як толькі пачаліся веснавыя дні, старэйшыя сябры гуртка — Ермалёнак Антон, Юржэвіч Сяргей, Шатурын Максім і іншыя здзейснілі шэраг краязнаўчых вандровак у наваколлі Мёраў. Знойдзены рэшткі керамічнага посуду, кафлі XVI — XVII стст. Асабліва рэдкай была манета — пяць капеек часоў Кацярыны I (колькасць адчаканеных манет была нязначнай, згодна з гістарычнымі даследваннямі). Унікальнай знаходкай было і алавяннае прасліца XIII — XIV стст., бо нават пры вялікіх раскопках знаходзяць больш шыферныя або гліняныя праселкі гэтага часу. Малодшыя гурткоўцы з нецярпеннем чакалі канікулаў, каб упершыню здзейсніць вялікую краязнаўчую вандроўку. Загадзя абмеркавалі маршрут, разгледзелі яго не толькі на сучасных, але і на старых вайсковых картах. У запасных фондах музея пазнаёміліся з матэрыяламі папярэдніх краязнаўчых пошукаў. Канечная кропка маршрута — Навалака. Мясціны гэтыя добра вядомы ўсім аматарам прыроды, прыгожыя мясціны прывабліваюць да адпачынку дзяцей і дарослых. Але мэта "Арганаўтаў" — не толькі захапляцца прыгажосцю роднай прыроды, а перш за ўсё — пошук нязведаных таямніц мінулага. Праўда, у гэтым напрамку сябры гуртка шукалі і раней, але апошняя

(заканчэнне на 8 стар.)

# ФЕСТЫВАЛЬ У КЕРНАВЕ

Выкажу меркаване, што многім чытачам знаёма паняцце – эксперыментальная, або жывая археалогія. Калі сцісла – гэта спроба імітацыі тэхналогій вырабу тых прадметаў, якія былі знойдзены пад час раскопак, а таксама ўмоў жыцця старажытных людзей. Жывую археалогію можна ахарактарызаваць і навуковым эксперыментам і гульнёй, і захапленнем. Да гэтага накірунку далучаецца ўсё больш людзей у розных краінах.

З разлікам на турыстаў многія краіны сталі праводзіць спецыяльныя фестывалі эксперыментальнай археалогіі. Удзельнікі прадстаўляюць гледачам вынікі сваёй дзейнасці, якія былі дасягнутыя за доўгі час карпатлівай напружанай працы. Наведвальнікаў уражвае знешняя прыгажосць, а таксама пазнавальны бок мерапрыемства.

Адным з самых маладых з'яўляецца фестываль жывой археалогіі, які праводзяць ў Кернаве, што каля Вільнюса, нашыя літоўскія суседзі. Аднак за кароткі час ён дасягнуў даволі высокага ўзроўня і атрымаў неблагую адзнаку спецыялістаў. Фестываль, які праводзіўся ў гэтым годзе 5-7 ліпеня, быў чацвёртым па ліку і ўпершыню меў статус міжнароднага.

Можна ўявіць сабе нашую радасць, калі ў Браслаўскі музей, у якім пачаўся складацца нефармальны клуб заўзятараў жывой археалогіі, прыйшло запрашэнне прыняць удзел у прэстыжным Кернаўскім фестывале. У склад удзельнікаў увайшло два чалавекі. Валеры Зінкевіч – спецыяліст па кераміцы, некалькі год ён працуе над рэканструкцыяй археалагічных ганчарных вырабаў і тэхналогій іх вырабу, неаднойчы працаваў у археалагічных экспедыцыях, удзельнічаў у шэрагу фестываляў, у т.л. у знакамітым Біскупінскім, які праводзіцца ў Польшчы. У Кернаве Валеры меркаваў дэманстраваць працу ганчара на павольнарухаючымся коле з нерухомай воссю, якое выкарыстоўвалася ў XI-XIII стст. Аўтар гэтых радкоў прыгатаваў калекцыю пісалаў (стыляў) – завостраных металічных стрыжняў. Пісаламі рабілі запісы на дошачках, пакрытых воскам. Гэты спосаб пісьма быў распаўсюджаны ў гарадах Беларусі ў XI-XIII стст. Археолагі знаходзілі пісалы амаль ва ўсіх гарадскіх паселішчах гэтага перыяду.



**Прыгожыя краявіды Кернавы**

Найбольшая іх колькасць паходзіць з Ваўкавыска і Наваградка.

Пры перасячэнні мяжы ўсе фармальнасці прайшлі хутка. Трохі незразумела для супрацоўнікаў мытні, але відаць важка, гучыць словазлучэнне "археалагічны фестываль". І вось наш "Іж-комбі", загружаны лагернымі рэчамі і вырабамі, пакаціў па дарогах суседкі-Літвы.

Кернава знаходзіцца на адлегласці 35 км ад Вільнюса, ад Браслава – каля 200 км. Кернава зусім невялічкае, але ўтульнае мястэчка, якое за апошнія гады стала адным з самых вядомых і наведваемых мест у Літве. Вядомасць паселішчу прынес археалагічны комплекс, які можна назваць унікальным. На адносна невялікай тэрыторыі, якая прымыкае да ракі Нярыс (на тэрыторыі Беларусі гэта рака Вілія), знаходзяцца стаянкі эпохі неаліту (IV-II тыс.да н.э.), бронзавага веку (XVI-VI стст. да н.э.), паселішча часоў Рымскай імперыі (I-IV стст. н.э.), жалезнага веку (V-X стст.н.э.), культурныя пласты горада Кернавы XIII-XIV стст., гарадское пахаванне XIII-XIV стст.. Найбольшую значнасць мае комплекс з пяці гарадзішчаў, аналагаў якім няма ва ўсёй Літве. Па меркаваннях гісторыкаў, на бліжэйшым да ракі гарадзішчы ў XIII ст. мясцілася рэзідэнцыя вялікага князя літоўскага, а астатнія выконвалі ролю ахоўных умацаванняў. У дадзены момант гарадзішчы – гэта пагуркі са стромкімі схіламі. Аднак, раней не ўяўляў, што ўзгоркі могуць настолькі ўразіць: і калі стаішь перад імі, і калі крочыш побач, і калі любуешся імі з нізкага берага ракі.

З 1979 г. тут сталі праводзіцца сістэматычныя археалагічныя даследванні. А ў 1989 г. на плошчы амаль у 200 га арганізавалі гісторыка-археалагічны заказнік. Цэнтр мястэчка добраўпарадкавалі, узвялі будынак пад археалагічны музей.

Увага да Кернавы тлумачыцца яшчэ і тым, што, па меркаванню літоўскіх гісторыкаў, у гэтым месце ў XIII ст. была сталіца Літвы. Трэба зазначыць, што пісьмовыя крыніцы не даюць на гэта адназначнага адказу. Лівонская рыфмаваная хроніка згадвае Кернаву як горад, які знаходзіцца на зямлі князя Тройдзена. Ёсць меркаванне, што ў Кернаве праходзіла каранацыя Міндоўга. У беларускіх гісторыкаў на гэта іншы пункт гледжання. За тыдзень да фестывалю ў Кернаве беларускі горад Наваградак сустракаў дзесяткі тысяч гасцей на



**Удзельнікі фестывалю**

святе сярэднявечнай культуры, прысвечаным каранацыі Міндоўга ў гэтым горадзе. Але пакінем палеміку гісторыкам.

Добрай рысай калектыву Кернаўскага музея-заказніка з'яўляецца апантаннасць, адданасць сваёй працы, любоў да гісторыі і археалогіі. Пры наяўнасці такога комплекса помнікаў тут проста не маглі не пачаць займацца жывой

археалогіяй. Пазнаёміўшыся з вопытам арганізацыі археалагічных фестываляў у польскім Біскупіне вырашылі паспрабаваць у сябе. На першых фестывалях не ставілі за мэту запрасіць як мага больш удзельнікаў, звярталі ўвагу на дакладнасць аднаўлення тэхналогій, навуковасць у спалучэнні з відовішчнасцю. На чацвёрты, ужо міжнародны фестываль, запрасілі гасцей з Польшчы, Беларусі, фальклорныя калектывы з Латвіі, Эстоніі, Славеніі, Амерыкі.

Асноўнай пляцоўкай дзеі стала гарадзішча Замкавая гара, самае вялікае ў комплексе. Экспазіцыя была падзелена на два аддзелы – дагістарычны і сярэднявечны. Наведвальнікі дагістарычнага аддзелу трапляялі ў час найбольш старажытных заняткаў чалавека. Перад іх вачыма праходзіла жыццё сям'і, якая займаецца прыгатаваннем ежы, уладкаваннем побыту, дэманстраваліся прыёмы прадзення, апрацоўкі бурштыну, вырабам ляпной керамікі, прыстасаванняў з крэменю, бронзавых упрыгажэнняў.

Сярэднявечча было прадстаўлена яшчэ большай колькасцю рамёстваў і заняткаў. Была магчымасць пазнаёміцца з тэхналогіямі кавальскага рамяства, вырабам абутку, ювелірных упрыгажэнняў, апрацоўкай скуры, чаканкай манет. Заўсёды шмат гледачоў тоўпілася каб паглядзець на стралкоў з лука. Асаблівую цікавасць не толькі наведвальнікаў, а і саміх удзельнікаў выклікаў працэс вырабу чоўна з цэлага бервяна, затым яго абпал. Зроблены човен быў тут жа спушчаны на ваду ракі Нярыс. Шмат каго прыцягвала арэна, на якой перыядычна ўстраівалі спаборніцтвы рыцары з клубаў "Kovarnis" (Вільнюс), "Княжы гуф" (Мінск) і інш.

Мне давялося працаваць у павільёне, які па-ангельску называўся "клерк". Адтуль цікава было назіраць за людзьмі. Кідалася ў вочы іх зацікаўленасць, жаданне даведацца пра нешта новае, але больш за ўсё спадабалася яе падрыхтаванасць. Большасць наведвальнікаў ужо ўяўлялі сабе, што яны пабачаць у Кернаве. Калі мы прывезлі цэлы комплекс старажыт-ных рамёстваў з Браслава ў Наваградак, то часцяком прыходзілася тлумачыць, у чым сутнасць усяго гэтага. Больш таго, ніхто з журналістаў не заўважыў сувязі гэтай дзеі з эксперыментальнай археалогіяй. Спосаб пісьма на васковых дошчачках у Кернаве дэманстраваўся ўпершыню. Пабываць старажытным пісарам імкнулася не толькі дзятва але і дарослыя. Сярод апошніх траплялiся гісторыкі, археолагі, музейныя супрацоўнікі. Сапраўды, лепш адзін раз пабачыць і паспрабаваць, чым сто разоў прачытаць. Дарэчы, на тэрыторыі Літвы пісалы з'яўляюцца вельмі рэдкай знаходкай. Два асобнікі знайшлі ў Кернаве, падобныя на пісалы прадметы знаходзілі і ў Вільнюсе.



**Валеры Зінкевіч на свяце**

Уражвала добрая арганізацыя фестываля. Да яго адкрыцця было ўсё загаддзя падрыхтавана, таму і механізм свята працаваў без недарэчнасцяў. Наведвальнік трапляў на падрыхтаваную пляцоўку праз уваход. Плата – 3 літы (трохі меней даляру). Дзякуючы спецыяльна падрыхтаванаму даведніку ён меў магчымасць абыходзіць павільёны па прапанаванаму маршруту. Даведнік утрымліваў дакладнае размеркаванне усіх галоўных дзей фестываля. Аб самым значным паведамлялі па радыё. Упрыгажэннем фестывалю з'яўляліся шматлікія фальклорныя калектывы, якія выступалі на сцэнічнай пляцоўцы.

Тры дні не перапынялася кола жадаючых унікнуць у жывую гісторыю. Найбольш наведвальнікаў прыняла субота. У першай палове дня на пад'ездзе да мястэчка утварыўся затор машын даўжынёй 3-4 кіламетры – сталіца рушыла ў Кернаву. Было прададзена каля 8 тыс.квіткоў, а цалкам у суботу фестываль наведала каля 15 тыс. чалавек. Арганізатары казалі, што такога поспеху фестываль яшчэ не меў і безумоўна, ён прынясе прыбытак.

Святы заўсёды сканчваюцца вельмі хутка. Быццам і не было гэтых трох дзён. Наша аўто вяртаецца назад, у Браслаў. Дзелімся ўспамінамі, аналізуем убачанае. Марым, каб такі ж фестываль адбыўся і ў Беларусі, магчыма, вядомай не толькі азёрамі, але і археалагічнымі помнікамі Браслаўшчыне. Час для такога свята ўжо настаў.

**Кастусь Шыдлоўскі**, навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея

# У гасцях у вікінгаў

3-4 жніўня ў Эстонскім мястэчку Кясму на ўзбярэжжы Балтыйскага мора адбыўся фэст вікінгаўскай культуры. На гэта свята была запрошана дэлегацыя з Беларусі, у тым ліку і мы: загадчыца філіяла Браслаўскага раённага аб'яднання музеяў – Зінкевіч Эла, і я – сціплы навуковы супрацоўнік той жа ўстановы.

Фэст абяцаў быць вельмі цікавым, і мы мелі магчымасць упэўніцца ў гэтым ужо па дарозе ў Эстонію са словаў хлопцаў Сяргея Барстока, Антона, Вадзіма, з Менску, Сяргея з Гомеля на чале з Ігарам Міхнам, якія ўвесь час распавядалі нам пра леташнія падзеі. Цеплыня, з якой яны смакавалі свае ўражанні, распальвала ў нас агеньчык добрай зайдрасці і прадчуванне сапраўднай "вікінгаўскай тусоўкі".

Незаўважна мы перасяклі Эстонскую мяжу і хутка завіталі ў горад Тарту, які ўжо хаваўся ў барвовых фарбах сонца, што па-эстонску павольна знікала за велічнымі шпілямі і вежамі старажытных будынкаў ратушнай плошчы. Павандраваўшы па вузенькіх брукаваных вулачках Тарту і ўразіўшыся павольнасцю эстонскага нораву, мы былі вымушаны рушыць у Кясму.

З узыходам сонца (такім жа сапраўдна эстонскім) нас сустрэлі арганізатары фэсту Лаўры. Наступны дзень павінны быў быць вельмі напружаны і мы пайшлі спаць...

Разбудзіў нас рокат хваляў, набягаючых на прыбярэжныя валуны, як бы заклікаючы на ўзбярэжжа. Уражанні велічнасці прыроды і нікчэмнасці чалавека як малюсенькай істоты, якая імкнецца штосьці зрабіць у сваім жыцці хутка знікла... Менавіта за тое, што краявід, які адкрыўся перад нашымі вачыма, вельмі нагадваў нам родны Браслаў – вымалёўваліся сілуэты дукельскага дуба, і Разэты, трысnёг шчыльным колам абступаў бераг.

каменні паказваліся з вады, і нават чайкі крычалі так, як на Дрывятах. Адзінае, што мы сталі вельмі маленькімі ў параўнанні з бясконцай марской прасторай і волатамі-валунамі, а да ўсяго вада была сапраўды салёнай...

Прыняўшы марское хрышчэнне, мы хутка (як сапраўдныя беларускія дзяўчаты) арганізавалі з дапамогай такіх-жа сапраўдных беларускіх хлопцаў месца сваёй выставы, дзе мы прэзентавалі здабыткі клуба аматараў жывой археалогіі, што ёсць пры нашым музеі, якія вельмі добра ўпісаліся ва ўсеагульную атмасферу вікінгаўскай эпохі.

На наша здзіўленне, мы ўбачылі шмат агульнага ў вікінгаўскай культуры, што можна было прасачыць на ўласныя вочы, не паглыбляючыся ў навуковыя вандроўкі па гістарычнай літаратуры. Аналогіі можна было заўважыць ва ўсім: па-першае, скандынаўскія дзяўчаты такія ж прыгожыя, як і беларускія; па-другое, строі, якія мелі мы, былі амаль такія ж, як і вікінгаўскія. Арганізацыя быту, вырабы з дрэва, саломы, бяросты, прылады для пісьменнасці, кераміка – усё-усё мела агульныя рысы. Вельмі ўражвала наведвальнікаў нашай маленечкай выставы тое, што вікінгі на самай справе былі на Браслаўшчыне, аб чым бясспрэчна сведчаць рунічныя надпісы на костках жывёл, знойдзеных на гарадзішчы Масквічы, а таксама скандынаўскія ўпрыгожванні, што можна было бачыць і сёння ў экспазіцыі нашага музея (раўнаплечая фібула, падвескі, чарапахападобная фібула, зробленая накшталт скандынаўскай). Таму нам было вельмі цікава мець стасункі з эстонскімі, літоўскімі, латышскімі навукоўцамі, якія складалі большую частку ўдзельнікаў гэтага фэсту, і мы з вялікім гонарам распавядалі ім, што такі маленечкі музейчык у маленькім беларускім Браславе мае такія каштоўнасці. Акрамя гэтага вельмі прыемна было расказаць пра працу нашага музея ўвогуле: пра адраджэнне рамёстваў, працу з дзецьмі ў гуманітарных летніках, паказаць ім фотаздымкі са святаў, што ладзіліся ў нас.

Асаблівае ўражанне засталося ў нас пасля знаёмства са шведскімі вікінгамі. Сапраўдныя "вікінгі", як прывіды, усплываюць у нашай памяці, нават моўны бар'ер не перашкаджаў нам у стасунках.

Увечары мы ведалі амаль што ўсіх удзельнікаў фэста, а спевы вакол вогнішча яшчэ больш аб'ядноўвалі апантаных людзей, што сабраліся ў гэтым маляўнічым эстонскім мястэчку.

Раніца паволі распачала, на жаль, апошні дзень фэста. У гэты дзень павінны былі адбыцца ваярскія спаборніцтвы і вялікі натоўп зацікаўленых узбуджаў паветра вакол пляцоўкі, дзе рыхтаваліся да выпрабаванняў сапраўдныя асілкі. Не гледзячы на тое, што ў бойках бралі ўдзел ваяры розных узростаў і вагавых катэгорый, мы былі прыемна здзіўлены і непамерна задаволены тым, што наш беларускі хлопец – Сяргей Барсток – перамог у гэтым выпрабаванні і быў узнагароджаны ганаровым знакам: кіпцем мядзведзя. Усе шчыра віталі яго, віншавалі з перамогай, а ён у сваю чаргу з гонарам дэманстраваў сінякі і драпіны, што засталіся на ягоных руках пасля сапраўднай бойкі.

Час, хоць у Эстоніі ён нібыта замірае, усё ж такі набліжаў нас да фінала...

Неўзабаве надышоў момант развітання. Мы з жалем у сэрцах па чарзе развітваліся з гасцямі фэста і яго гаспадарамі. Наперадзе нас чакаў стары Талін з неапісальна прыгожымі краявідамі, этнаграфічны музей пад адкрытым небам, наведванне карчмы "Стары Ганза" з мілагучнымі сярэднявечнымі мелодыямі і шыкоўнымі стравамі, якімі частаваў нас "сапраўдны эстонскі хлопец" Мееліс Сары, непаўторнае піва і павольнае, але поўнае прыгод вяртанне дадому.

*Людміла Пупіна, супрацоўнік Браслаўскага гістарычна-краязнаўчага музея.*

Дзіцячыя гуманітарныя летнікі, якія ладзяцца сябрамі Браслаўскага краязнаўчага таварыства, супрацоўнікамі музея, сталі ўжо добрай традыцыяй.

У гэтым годзе чацвёрты летнік праводзіўся на беразе возера Укля ў жніўні і быў цалкам скіраваны на жывую археалогію. Кожны, хто хацеў патрапіць у летнік, падрыхтаваць гістарычны строй, блізкі да

# УКЛЯ-2002



ранняга сярэднявечча і карыстацца ім увесь час жыцця ў лагеры. Ставілася задача, што кожны ўдзельнік летніка будзе займацца пэўным рамяством, а пры жаданні – і некалькімі.

Сказаць па-праўдзе, такімі патрабаваннямі, апрача іншага, мы спадзяваліся скараціць кола шматлікіх жадаючых трапіць на маляўнічы бераг Уклі. Куды там!.. Не дапамагло: трывалымі ўдзельнікамі летніка стала каля 50 чалавек (яшчэ чалавек 20 з'яўляліся ў лагеры эпізадычна). Гэта былі дзеці і дарослыя не толькі з Браслаўшчыны, але і з Павалоцка,



Менска, Гарадзеншчыны, а таксама дзеці беларусаў з Даўгаўпілса (Латвія) і Масквы (Расія).

Напачатку ля падэшвы старажытнага гарадзішча быў разбіты звычайны турысцкі лагер. Для гэтага спатрэбілася некалькі гадзін. Потым на працягу двух дзён узводзіліся асноўныя пабудовы паселішча, кшталту старажытнага стойбішча - будана,

накрытыя трыснягом, з самастойнымі вогнішчамі, паўзямлянка. Былі абсталяваны месцы будучай працы. Стойбішча ўдасканальвалася ўвесь час – з'явіліся ідалы-стоды, упрыгожваліся пляцоўкі перад буданамі, запрацаваў ачаг (копія таго, што быў сёлета раскапаны археолагамі на гарадзішчы Рацюнкі).



Калі першыя дні пайшлі ў асноўным на тое, каб уладкаваць свой побыт і прызвычаіцца да новых умоў жыцця, то пазней найбольш ажыўлена стала на навучальных пляцоўках.

Амаль усе паспрабавалі свае сілы ў вырабе сапраўдных прыстасаванняў для пісьма. Галоўнае жаданне, нават дзяўчынкам удалося вырабіць даволі зграбныя



дошчачкі для пісання, залітыя воскам. Заўсёды шматлюдна было каля ганчарнай майстэрні. Спяшаліся зляпіць посуд, сувеніры. Некалькі дзён вырабы падсыхалі. А потым было цудоўнае па прыгажосці абпальванне ў яме – як тысячу гадоў таму.

Не толькі дзяўчынак прываблівала пляценне паясоў і паясочкаў, можна было паспрабаваць свае сілы ў вырабе драўляных лыжак, прадзенні на верацяне з праселкам.

Адным з галоўных момантаў летніка быў выраб чоўна-даўблёнкі з асінавага бервяна. Запоўнілася відовішча абпальвання гатовага чоўна саломай і ўрачысты спуск на ваду. Для дарослага чалавека човен аказаўся замалы, а сярод дзяцей да канца летніка існавала чарга на катанне.



Нягледзячы на значную колькасць удзельнікаў, ежы хапала. Здаралася, што ў катле нешта і заставалася. Аднак, калі на ачагу рыхтаваліся праснакі – ляпёшкі з цеста, прыпраўленыя цыбуляй, здавалася, што і малыя, і вялікія не елі колькі дзён. Якая смаката – гэткая простая, звычайная ляпёшка!.. Праўда, не спрабуйце рабіць яе ў хаце. Толькі ў старажытным стойбішчы атрымаеце ўяўленне аб яе сапраўдным смаку.

Пальцаў не хопіць пералічыць усё тое, што яшчэ спрабавалі рабіць у летніку: вучыліся старажытным танцам і гульням, спявалі каля вогнішча, апрацоўвалі камень (мала што не зрабілі каменную сякеру), дзяўблі калоду для пчол, выраблялі лукі і дзіды... Нават схадзілі ў двухдзённы паход-вандроўку вакол возера (некалькі кіламетраў прайшлі па балотах і па возеры).

Кожны дзень прымалі гасцей. Найбольш адметнай падзеяй стаўся прыезд славутага гурта старадаўняй музыкі "Стары Ольса" з Менска. Начны канцэрт гурта пры святле паходняў на фоне нашага стойбішча – кульмінацыйная кропка летніка. Неўзабаве разагрэтая публіка ўзрынулася ў вар'яцкія скокі пад гукі дуды. Найбольш шалёныя па пару разоў скаціліся з горкі ("кубарам з гары").



Калі настала пара накідваць свае плецакі, каб вярнуцца ва ўлонне цывілізацыі, аказалася, што яны не сталі лягчэйшымі. Месца з'едзеных харчоў занялі зробленыя сваімі рукамі і таму такія дарагія гаршчочкі, місачкі, лыжкі, амулеты.

У гарадскіх кватэрах яны будуць нагадваць аб цудоўных днях, праведзеных на беразе возера Укля. А мо каму спатрэбяцца і на Уклі-2003?!.

**Уклянскі пісальшчык ("церарыст").**

# Паляўнічыя за таямніцамі

(заканчэнне. Пачатак на с.3)

вандроўка адбылася ажно ў 1994 годзе.

Вось, нарэшце, надыйшоў час вандроўкі. Першы прыпынак — наваколле вёскі Лінкаўшчына. Яшчэ ў 80-я гады мінулага стагоддзя "Арганаўты" адкрылі тут паселішча каменнага веку, 4 тыс.да н.э. У пачатку XX ст. ў вёсцы пражывала 116 жыхароў, зараз — не больш дзесяці.

Першае выпрабаванне — пераадоленне гушчару — аказалася не пад сілу дзяўчатам гуртка: ім прыйшлося адступіць. Але хлопцы: Граноўскі Саша, Кукуць Леанід, Ермалёнак Антон — не спынілі пошук і, як кажуць, "узнагарода" знайшла герояў. Былі знойдзены адзінкавыя экзэмпляры этнаграфічных рэчаў: малая ступка, лапаты для выпечкі «бульбянікаў» і інш. Вясковыя агароды таксама далі свой плён. Сустрэчу з ветэранам вайны Зуевым Васілём Рыгоравічам вырашылі перанесці на апошні дзень вандроўкі. Разбіўшы базавы лагер на возеры Важа, краязнаўцы пачалі абследванне месцаў былога фальварка Важа (уладанне Беліцкай), былых засценкаў Клётта і Скрабоўскага пад назвай Бажда. Раней, у 1994 г. намі тут было знойдзена шмат прадметаў матэрыяльнай культуры, пачынаючы з каменных разцоў эпохі неаліта. На гэты раз вынікі былі значна горшыя, што тлумачыцца высадкай маладога лесу на месцы былых паселішчаў. Такім чынам, пройдзе яшчэ дзесятак гадоў — і ніхто не згадае, што на гэтым месцы калісьці жылі людзі, што яны радаваліся і сумавалі, марылі аб будучым, гадавалі дзяцей... Жорсткае XX стагоддзе з рэпрэсіямі і войнамі перакрэсліла іх планы. Таму наша разведка, напэўна, будзе апошняй, што дала нейкія вынікі. Акрамя керамікі XVI — XX стст. знойдзены брускі, манета Расіі 1859 года. Кавалкі керамікі 3 тыс.да н.э. пацвердзілі існаванне тут сталых паселішчаў каменнага века. Наступная разведка з базавага лагера на Важа была непасрэдна ў старадаўняе ўладанне Клёттаў — Навалаку.

Як заўсёды, "Арганаўты" атрымалі заданне — уважліва сачыць за кожным сантыметрам зямлі паабапал дарогі, як і на самой сцяжынцы. Тут на дапамогу гурткоўцам прыйшоў самы вялікі "археолаг" і шукальнік — крот. Ён у сваіх курганках неаднойчы выкопваў манеты, але зараз кіраўнік звярнуў увагу на незвычайны чорны колер зямлі — як на гарадзішчы. Гурткоўцы асцярожна рукамі перабралі кожны камячок і адразу знайшлі некалькі кавалкаў керамікі днепра-дзвінскай культуры. Пры больш уважлівым разглядзе мясцовасці ўдалося разгледзець рэшткі валоў гарадзішча позняга этапа днепра-дзвінскай культуры, што адносіцца да 2-3 ст.н.э. Падобнае гурткоўцы адкрылі некалькі гадоў таму ў Шаркаўшчынскім р-не ля в.Забор'е.

У Навалацы нас гасцінна сустрэў яе сучасны гаспадар Зянон Маркевіч. Ён напаіў стомленых дарогай і пошукамі краязнаўцаў смачным малаком, а таксама расказаў аб цікавай знаходцы на сваім бульбяным полі: кавалка каменнай сякеры. Узрадаваныя, краязнаўцы тут жа накіраваліся на згаданае месца. Нават першы выгляд поля пацвердзіў існаванне тут паселішча першабытнага чалавека. Праведзены пошук таксама даў станоўчы вынік. На наступны дзень знаёмства з Навалакай працягвалася. На жаль, гэта цудоўнае месца прыходзіць у заняпад. Доўгі час прыгожа глядзелася на высокім пагорку званіца, што ўцалела пасля знішчэння касцёла. Краявід вельмі нагадваў вядомую карціну І.Левітана "Над вечным пакоем". Ды толькі зараз нас чакала чарговае расчараванне: замест званіцы — толькі цагляны і каменны друз ля рэштак першага яруса... Мы даведаліся, што ксёндз Здзіслаў з Пагоста меркаваў яе аднавіць і загадаў разбурыць верхні ярус, аднак ён у хуткім часе з'ехаў у Польшчу, пакінуўшы пасля сябе руіны. Дапытлівыя "Арганаўты" агледзелі кожную цагліну і зрабілі яшчэ адно адкрыццё: цагліны былі рознага часу, з рознымі тыпамі знакаў на іх. Самая старая — так званая "пальчатка" — адносіцца да XVI ст., найбольш ранняя — да XVIII-XIX стст. Гэта сведчыць аб тым, што званіца неаднойчы перабудоўвалася, аднак выкарыстоўваўся і стары матэрыял: камні і цэгла. Апошняе аднаўленне адбылося ў канцы XIX ст., аб чым сведчыць "разынкавая муроўка" на падмурку.

Гурткоўцы адшукалі і надмагіллі ўніяцкіх святароў XVIII-XIX стст. Далейшы пошук у наваколлі Навалакі прынёс таксама шэраг цікавых знаходак. Асабліва захапляліся пошукам Алена Басікірская, Дзямід Марына, Швед Андрэй, Граноўскі Саша, Кукуць Леанід — тыя, хто ўпершыню ўдзельнічаў у вандроўцы. Да слова, маладыя краязнаўцы не заўсёды ўмелі разлічыць свае сілы, таму асноўныя знаходкі дасталіся іх кіраўніку і старэйшаму "Арганаўту" — Ермалёнку Антону.

Наступны дзень быў прысвечаны вывучэнню былой вёскі Ківернікі. Паселішча не існуе з 50-х гг., зараз на яго месцы пасаджаны маладыя елкі. Удалося знайсці шмат керамікі, пачынаючы з XVI ст., а таксама некалькі крамянёвых скрабкоў III тыс.да н.э.

У вёсцы Лінкаўшчына адбылася цікавая сустрэча з ветэранам вайны Зуевым Васілём Рыгоравічам. Аказалася ў раённай кнізе "Памяць" недакладнасць: ён ваяваў не ў пяхотным, а ў 122 артылерыйскім гаўбічным палку. Васіль Рыгоравіч апавядаў аб страшных баях у Германіі, дзе і быў паранены, аб жорсткіх баях з эсэсаўцамі пад Прагай ужо падчас капітуляцыі. З горыччу ветэран расказаў, што краязнаўцы з Пераброддзя забралі ўзнагароды і зараз невядома, дзе яны. Многія дзеці ўпершыню ўбачылі старую кузню, дзе працаваў ветэран. На ўспамін ветэран перадаў музею СШ № 3 керамічны посуд пачатку XX ст.

Такім чынам, чарговая краязнаўчая вандроўка паспяхова завяршылася.

***Вітаўт Ермалёнак, настаўнік СШ№3 г.Мёры, кіраўнік гуртка "Арганаўты мінулага"***


« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага адзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»